ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 11 (2465) 14 сакавіка 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАНДРАТА КРАПІВЫ



**Сваім жыццём і творчасцю Кандрат Крапіва збудаваў сабе Браму неўміручасці. І не толькі сабе, але і свайму народу, сваёй краіне, праславіўшы іх неўміручым талентам драматурга, паэта, празаіка, вучонага.**

**НА ЗДЫМКУ: у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ў час адкрыцця выставы "Кандрат Крапіва -- вядомы і невядомы" выступае Янка БРЫЛЬ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*(Матэрыялы, прысвечаныя 100-гадоваму юбілею Кандрата Крапівы, і яго творы змешчаны на 6-й--7-й стар.).*

## *ЖЫЦЦЁ, ЯК ЯНО ЁСЦЬ*

# ІНТЭРНАЦКІЯ ПАКУТЫ

Нездарма кажуць: няма нічога больш пастаяннага, чым часовае. Прынамсі, у нашай краіне. Прыкладаў таму безліч. Пачынаючы ад мастоў і заканчваючы заканадаўчымі актамі. І ў гэтым шэрагу -- рабочыя інтэрнаты.

Так ужо склалася, што на працягу усіх гадоў савецкай улады жыллёвая праблема заставалася адной з найбольш вострых і набалелых. Як вядома, тады кватэры грамадзяне атрымлівалі ад дзяржавы бясплатна, і, хаця будаўніцтва вялося немалое, чэргі раслі і раслі. Магчыма, сярод іншага прычынай быў той велізарны людскі прыток з вёсак, які стаў набіраць моц, калі сялянам выдалі пашпарты і дазволілі свабодна рухацца па краіне ў пошуках працы. Пасля ўсіх выпрабаванняў, што зведаў вясковы люд, лепшую будучыню для сваіх дзяцей калгасна-саўгасныя бацькі бачылі толькі ў горадзе, куды і выпраўлялі дачок і сыноў адразу пасля атрымання школьнага атэстата або і таго раней. Горад, у сваю чаргу, не адмаўляўся ад дадатковых працоўных рэсурсаў: усе шыльды і слупы былі абвешаны аб'явамі -- "патрабуюцца"... А каб новаспечаным токарам, слесарам і ткачыхам было дзе прысланіць галаву, прадпрыемствы будавалі для іх часовае жытло -- заводскія інтэрнаты, бо, зразумела, на асобную кватэру адразу прэтэндаваць не даводзілася.

Між іншым, ложак у інтэрнацкім пакоі таксама ўспрымаўся не так ужо дрэнна: не трэба было мыкацца па прыватных кватэрах ці выпрошваць кут у сваякоў, якія звычайна і самі не шыкавалі. Дарэчы, "прыватная кватэра" -- гучала тады занадта моцна. На справе гэта быў маленькі пакойчык ці толькі спальнае месца, якія здавалі квартарантам гаспадары, каб мець лішні рубель. Прычым, часцей за ўсё неабходныя "камунальныя зручнасці" былі далёка не зручнымі і часам знаходзіліся на двары. Да таго ж, нягледзячы на немалую плату за пражыванне, трэба было яшчэ патрапіць гаспадарам, з якімі даводзілася існаваць побач, не раздражняць іх, выконваць шэраг умоў: святло не паліць, тэлевізар не ўключай, гасцей не запрашай і г.д.

(Заканчэнне на 3-й стар.).



**У кожнага чалавека павінен быць свой дом. Калі ж "крэпасць" так і застаецца толькі прытулкам, адбываецца не проста жыццёвая драма, але сапраўдная трагедыя.**

*(Фотарэпартаж пра жыццё ў заводскіх інтэрнатах змешчаны на 3-й стар.).*

## ПАМЯЦЬ

# ЛЮТА-ВОГНЕННЫ МЕСЯЦ АСВЕЙШЧЫНЫ



Дваццаць гадоў назад я атрымаў першы ліст ад былога малалетняга вязня Саласпілскага канцлагера. Ім быў ураджэнец Асвейшчыны Эдуард Абуховіч. За гэты немалы час назапашана тысячы сведчанняў, дакументаў пра яшчэ адну нашую генацыдную катастрофу, нацыянальнае бедства -- на працягу двух гадоў бесперапыннае татальнае вынішчэнне Асвейскага краю ў ходзе другой сусветнай вайны. Мог бы назваць тыя 43-ці, 44-ты гады гадамі Вялікай Айчыннай. Але насельнікі паўночна-заходняга Падзвіння ўсмяртоўваліся ў сваіх вогненных вёсках не падчас змагарнага баявога супрацьстаяння, а ў выніку карных экспедыцый армейскіх і паліцэйскіх батальёнаў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых. Зусім не рыцарская помста тэўтонаў абрушылася на ўвесь названы пазней Брацкі партызанскі край. І калі партызаны выслізвалі з танкава-авіяцыйнага наслання, то ахвярамі жудасных расправ станавіліся іх карміцельцы, праваднікі, абагрэўцы. Усё жывое вынішчалася толькі дзеля стварэння "санітарных зонаў", беспрытульнай прасторы.

Мае дзве кнігі -- "Браніслава", "Освейская трагедия", укладзены мною зборнік "Дзеці вайны" і расказваюць пра лёс ацалелых асвейцаў, пра ратаваных маленькіх вязняў Саласпілса жыхарамі Латвіі. Змаганне за жыццё ішло побач са змаганнем за чысціню душы, высакароднасць. Відаць, ніколі не забыць мне адно горкае прызнанне гаротніцы-жанчыны: "З такімі меркамі духоўнасці, як сёння, мы ў тым сатанінскім пекле не выжылі б. Тады нас ратавалі міласэрнасць, спачуванне, лагода, узаемавыручка..."

Колькі ўжо лёсавых выпрабаванняў выпала на долю беларускага народа. За якія грахі кожная кара? І яшчэ адна смерць у растэрміноўку -- вывяржэнне чарнобыльскага Везувія. Божа, калі здымеш з нас памарачэнне? Калі згуртуемся, пачуем сябе народам, нацыяй, а не насельніцтвам, у якога ад беспрасветнасці і мову адняло?

**НА ЗДЫМКУ: помнік ахвярам карных экспедыцый, г. Верхнядзвінск.**

**Фота Сяргея ПАНІЗЬНІКА.**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*МІЖНАРОДНЫ СХОД*

## ПРАВАСЛАЎЕ ЯК СІМВАЛ АДЗІНСТВА




**У першую нядзелю Вялікага поста, 3 сакавіка, які адзначаны ў царкоўным календары як свята трыумфу праваслаўя, у Свята-Духавым кафедральным саборы Мінска аб умацаванні веры і набожнасці маліліся ўдзельнікі міжнароднай канферэнцыі "Ідэі адзінства праваслаўных народаў у кантэксце сучаснай эпохі". Літургію правёў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі ў саслужэнні архірэяў. Так пачаўся двухтыднёвы форум парламентарыяў праваслаўнага веравызнання з краін Еўропы, Закаўказзя і Азіі.**

**Мінская канферэнцыя, арганізатарам якой выступіў Фонд адзінства праваслаўных народаў, стала чарговай рабочай сустрэчай у рамках дзейнасці Еўрапейскай міжпарламенцкай асамблеі праваслаўя. Галоўныя тэмы дыскусій на ёй -- праблемы заканадаўчага, навуковага і міжканфесіянальнага супрацоўніцтва дзяржаў і народаў Еўразійскага кантынента.**

**Удзельнікаў форуму, якія затым сабраліся ў Рэспубліканскім культурна-асветным цэнтры, цёпла вітаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. "Сёння праваслаўе, -- сказаў ён, -- галоўная аб'яднальная сіла ва Усходняй Еўропе. Гэта та гістарычная аснова, з якой краіны рэгіёна могуць дастойна ўвайсці ў састаў агульнаеўрапейскага дома і паступальна развіваць свае адносіны з іншымі сусветнымі культурамі".**

**Кіраўнік дзяржавы адзначыў далей, што, прапаведуючы хрысціянскія ідэі гуманізму, праваслаўе маральна загартоўвае людзей, дапамагае ім пераадольваць цяжкасці. "Асабліва актуальныя цяпер, -- заключыў Прэзідэнт, -- аб'яднальныя намаганні праваслаўя. Толькі разам нашы народы здольны прыйсці да працвітання".**

**Прывітанне міжнароднаму форуму праваслаўных парламентарыяў з пажаданнем паспяховай работы ад патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II зачытаў удзельнікам прадстаяцель Беларускай праваслаўнай царквы Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.**

**Перад праваслаўным сходам у той жа дзень выступілі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, Прэзідэнт Еўрапейскай міжпарламенцкай асамблеі праваслаўя (ЕМАП), старшыня камітэта па справах грамадскіх аб'яднанняў і рэлігійных арганізацый Дзяржаўнай думы Расіі Віктар Зоркальцаў, прэзідэнт Фонду адзінства праваслаўных народаў, доктар філасофскіх навук Валерый Аляксееў і дэпутат Нацыянальнага сходу Балгарыі, член сакратарыята ЕМАП Лізавета Міленава.**

**НА ЗДЫМКУ:** у час канферэнцыі.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

## НАПРАМАК — САЦЫЯЛІЗМ

**"Чалавецтва ідзе ў адным напрамку -- сацыялістычным", -- так ахарактарызаваў свае погляды на развіццё грамадства Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, выступаючы 29 лютага на сустрэчы з прадстаўнікамі Беларускай арганізацыі ветэранаў.**

**Сваю прыхільнасць да сацыялістычнай ідэі кіраўнік парламента растлумачыў тым, што яна ставіць у аснову асноў інтарэсы чалавека, інтарэсы асобы. "Да такой мадэлі прыйшлі практычна ўсе развітыя краіны свету, -- сказаў Сямён Шарэцкі. -- Погляды на само паняцце "сацыялізм" могуць быць розныя, але справа не ў эпітэтах. Проста нельга ўсё уніфікаваць, а трэба ўлічваць розніцу не толькі ў прыродна-эканамічных умовах дзяржаў, але і ў менталітэце людзей".**

**На думку спікера парламента, у Беларусі пакуль няма дакладнага ўяўлення аб тым, якое грамадства мы імкнёмся стварыць. На яго погляд, адна з задач Вярхоўнага Савета -- вызначыць асноўныя напрамкі ўнутранай і знешняй палітыкі нашай дзяржавы. "Я прапанаваў Прэзідэнту стварыць у парламенце спецыяльную камісію, якую ён мог бы ўзначаліць, -- сказаў Сямён Шарэцкі. -- У яе ўвойдуць дэпутаты, прадстаўнікі ветэранскага руху, і мы разам павінны вызначыць мадэль нашага грамадства і мэту, да якой будзем ісці".**

*ЛЯЧЭННЕ ПРАЦАЙ*

## НОВЫ ЦЭНТР У "НАВІНКАХ"

**Нядаўна ў Рэспубліканскай клінічнай псіхіятрычнай бальніцы адбылася падзея, на якую сабраліся прадстаўнікі медыцынскага персаналу гэтай установы. У добра вядомых "Навінках" адкрыўся рэабілітацыйны цэнтр, дзе пацыенты змогуць адпачыць і папраівць сваё душэўнае здароўе пры дапамозе працатэрапіі. Ідэя стварыць такі цэнтр узнікла больш як два гады таму. Некаторыя ўрачы бальніцы пабывалі на стажыроўцы ў Францыі, Галандыі, Германіі і іншых краінах і ўбачылі, што ва ўсім свеце зараз адыходзяць ад біялагічных метадаў лячэння псіхічных захворванняў і аддаюць перавагу сацыяпсіхалагічным. Далёка не ўсё з таго, што робіцца на Захадзе, можна перанесці да нас: не хапае псіхолагаў, сацыяльных і медыцынскіх работнікаў, ды і ўвогуле нават мэблю і іншае абсталяванне давялося збіраць па аддзяленнях. І ў самой бальніцы праблемы не канчаюцца: калі выпісаны пацыент жыве ў Мінску, яму яшчэ можна дапамагчы лекамі, падтрымліваць працэдурамі, калі ж ён вясковы жыхар, то дапамогі не будзе, лічы што, ніякай. Разумеючы ўсё гэта, як ніхто іншы, супрацоўнікі бальніцы прыклалі шмат намаганняў, каб стварыць у сябе гэты цэнтр. Акрамя ўрача-псіхіятра там будуць працаваць псіхолаг, музычны работнік, юрыст, бібліятэкар. Тут мяркуецца праводзіць музычныя вечары, будзе працаваць бібліятэка, пацыенты змогуць атрымаць кансультацыю юрыста, навучыцца вязанню, разьбе па дрэву, макрамэ і іншым відам рукадзелля. Але ж не трэба разглядаць дзейнасць цэнтра як нешта накшталт гуртка "Умелыя рукі". Гэта важнае дыягнастычнае мерапрыемства і, як гаворыць сусветны вопыт, амаль што 50 працэнтаў паспяховага лячэння. З прац пацыентаў можна шмат чаго даведацца аб стане іх душэўнага здароўя, аб дынаміцы выздараўлення. Яшчэ адна мэта гэтага лячэння -- не проста вярнуць чалавеку псіхічнае здароўе, а развіць яго творчы патэнцыял, паказаць самому пацыенту яго магчымасці і здольнасці.**

**Тут вельмі спадзяюцца на дапамогу прамысловых прадпрыемстваў, многія з якіх згадзіліся аддаваць бясплатна некандыцыйныя скуру, ніткі і іншыя матэрыялы. Урачы лічаць, што калі б людзі разумелі, якая празрыстая і тонкая мяжа аддзяляе псіхічна здаровага чалавека ад хворага, яны значна больш увагі ўдзялілі б тым, каго бяда ўжо кранула. А пакуль што цэнтр праваслаўнай асветы зрабіў тут невялікую бібліятэку, прыходзяць у бальніцу і святары.**

**Вера АНТОНАВА.**

*ШКОЛЬНАЯ МАСЛЕНІЦА*



**У віцебскай сярэдняй школе N 8 прайшла масленіца ў тэатралізаваным прадстаўленні навучэнцаў. Удзельнікамі масавага гуляння былі Баба-Яга, Снежная каралева, матухна Вясна, скамарохі і іншыя персанажы народнага фальклору. А завяршылася яно традыцыйнымі блінамі, прыгатаванымі самімі школьнікамі.**

**НА ЗДЫМКУ:** на школьнай масленіцы.

*ВЕСТКІ З ЛІДЧЫНЫ*

**ВУЛІЦА Дзяржынскага ў мястэчку Беняконі Воранаўскага раёна нядаўна перайменавана ў вуліцу Адама Міцкевіча. Яна вядзе да былой сядзібы графа Путкамера, дзе жыла каханая паэта Марыля Верашчака. А ў суседніх Больценіках, у якіх адбываліся сустрэчы блізкіх людзей, да 200-годдзя з дня нараджэння вялікага паэта мяркуецца адкрыць у былым палацы музей знакамітага сына гродзенскай зямлі.**

**У ЛІДЗЕ і раёне пачала працаваць аб'яднаная арганізацыя Таварыства беларускай школы. Так амаль праз 60 гадоў пасля забароны аднайменнай арганізацыі ў Заходняй Беларусі ўладамі даваеннай Польшчы на прынёманскай зямлі зноў успомнілі пра ТБШ. Да такога рашэння вымусіла тое, што на Лідчыне, як і ў іншых рэгіёнах, аслабла прапаганда роднага слова, звузіўся яго паўсядзённы ўжытак.**

**АРГКАМІТЭТ па падрыхтоўцы і правядзенню 120-годдзя з дня нараджэння Цёткі (А.Пашкевіч) створаны ў Шчучынскім раёне. Да юбілею мяркуецца ўстанавіць помнік знакамітай паэтэсе ў райцэнтры, рэканструяваць яе музей у Астрынскай школе, правесці раённае свята "Цётка -- нашчадкам сваім на гады і стагоддзі" і шэраг іншых мерапрыемстваў.**

А.ЖАЛКОЎСКІ.

*ДОМ МАЛІТВЫ*



**Малітоўны дом хрысціян веры Евангельскай адкрыты ў Быхаве. Разлічаны ён на пяцьсот наведвальнікаў, узведзены з дапамогай нямецкай хрысціянская місіі "Неемія", якая супрацоўнічае з беларускімі хрысціянамі-евангелістамі.**

**НА ЗДЫМКУ:** новы малітоўны дом у Быхаве.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ВЫПУСК прадукцыі на Мінскім трактарным заводзе скараціўся са 100 тысяч трактароў у 1990 годзе да 26,4 тысячы ў 1995. Прычыны -- рэзкае павелічэнне кошту матэрыяльных і паліўна-энергетычных рэсурсаў, зніжэнне пакупніцкай здольнасці калгасаў і саўгасаў.

У ВЁСКАХ Бераставіцкага раёна на Гродзеншчыне з'явіліся старасты. Абірае іх сама вёска, без ніякага ціску "зверху". Наадварот, раённая прэзідэнцкая "вертыкаль" мае намер абаперціся на гэтых людзей. Яны будуць запрашацца на сесіі Саветаў і пасяджэнні іх выканкомаў. У вёсках Бераставіцкага раёна ўжо абрана 127 стараст.

МІНІСТР абароны Беларусі Леанід Мальцаў загадаў распрацаваць меры па аказанню дапамогі грамадзянам пры ахове мастоў і гідразбудаванняў ад веснавога крыгаходу. Плануецца, што ў падрыўных работах пры ачыстцы рэк і вадаёмаў ад лёду прымуць удзел 35 каманд.

СЁЛЕТА ў красавіку-маі ў Беларусі пачнецца выдача пашпартоў з новай дзяржаўнай сімволікай. Дасюль на руках у насельніцтва рэспублікі маецца каля 100 тысяч пашпартоў з "Пагоняй", якія выдаваліся толькі мінчанам і жыхарам Мінскай вобласці, а таксама пашпарты СССР.

ШТОГОД у Мінску хаваюць больш 10 тысяч чалавек. Для нябожчыкаў адводзіцца 50 гектараў пад новыя могілкі -- "Заходнія", рэканструюецца крэматорый. З'явіцца і новы від рытуальных паслуг, які адпавядае новаму часу, -- "фамільны склеп". Вядома ж, яго могуць купіць вельмі багатыя грамадзяне Беларусі. Для іх і так званыя "камерцыйныя труны", прывезеныя з-за мяжы. Каштуюць яны ўсяго... 1 000 долараў.

*ДАДЗЕНА ЗГОДА*

## НОВЫЯ ПАДРУЧНІКІ

**Пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Русакевіча адбылося чарговае пасяджэнне дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы.**

**Як паведаміла прэс-служба Кабінета Міністраў, на пасяджэнні разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да выдання шэрагу падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі, геаграфіі, літаратуры і паліталогіі. Пасля дэталёвага абмеркавання камісія рэкамендавала да выдання два падручнікі па геаграфіі, чатыры па літаратуры і адзін вучэбны дапаможнік па гісторыі. Асобныя рукапісы новых падручнікаў накіраваны аўтарам на дапрацоўку.**

*ПІНСКІЯ АЎТОБУСЫ*



**Прадпрыемствы акцыянернага таварыства "Амкадор", раскіданыя па ўсёй Беларусі, працуюць і ў Пінску. У гэтым палескім горадзе робяць аўтобусы, снегаачышчальнікі, дарожную тэхніку. Каля трыццаці пінскіх аўтобусаў тыпу "Ікарус-280" ужо працуюць на маршрутах абласных цэнтраў рэспублікі, у Салігорску, Барысаве і нават у Маскве.**

**Пінскі "Ікарус" на 60 працэнтаў збіраецца з вузлоў і дэталей, якія вырабляюцца ў Беларусі, і на 40 -- з таго, што пастаўляе Венгрыя. Шнекаротарныя снегаачышчальнікі, выпускаемыя ў Пінску, добра зарэкамендавалі сябе ў раёнах Поўначы. Яны здольныя разграбаць снежныя заносы вышынёй два-тры метры, адкідваючы снег на адлегласць да 50 метраў.**

**НА ЗДЫМКУ:** з канвеера сыходзіць чарговы пінскі аўтобус.

*ЖЫЦЦЁ, ЯК ЯНО ЁСЦЬ*

# ІНТЭРНАЦКІЯ ПАКУТЫ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

У інтэрнаце жылося вальней, хаця і там устанаўліваўся даволі жорсткі парадак. Справа ў тым, што яны звычайна падзяляліся на жаночыя і мужчынскія, а таму пасля 11 гадзін вечара асобам процілеглага полу знаходзіцца не ў "сваім" інтэрнаце строга забаранялася. Нават калі гэта былі ўжо законныя муж і жонка. Так нярэдка і здаралася: ажэняцца хлопец з дзяўчынаю і, калі грошай, каб зняць прыватны пакойчык, не хапала, па некалькі год жылі ў розных будынінах і хадзілі адзін да аднаго ў госці.

Але трэба аддаць належнае: тады ў інтэрнацкіх жыхароў захоўвалася магчымасць рана ці позна змяніць свой жыллёвы статус. У залежнасці ад таго, наколькі моцнымі былі ўстанова ці прадпрыемства, дзе яны працавалі, праз 5--10--15 год нарэшце падыходзіла чарга, і на шчаслівчыкаў "звальвалася" новая ўласная кватэра. А іх месца ў інтэрнаце, на той час ужо сямейным, дзе дазвалялася пражыванне разам, нават з дзецьмі, займаў новы прэтэндэнт на вырашэнне "кватэрнага пытання".

Так было. Сёння ўсё па-іншаму. Інтэрнаты наогул не будуюцца: у прадпрыемстваў няма грошай нават на заработную плату сваім работнікам. Ды і сама дэмаграфічная сітуацыя змянілася: новыя рабочыя рукі на заводах і фабрыках не патрэбны, заняць бы працай тых, хто ёсць. Зноў жа вельмі нявыгадна сёння браць прыезджага спецыяліста без славутай мясцовай прапіскі: за яго неабходна заплаціць гораду ад 7 да 12 мільёнаў рублёў. Навошта ж такія выдаткі, калі і гарадскіх, з гатовай прапіскай, беспрацоўных хапае.

Увогуле зараз рабочыя інтэрнаты для заводскіх дырэктараў, па сумным прызнанні аднаго прафсаюзнага кіраўніка, "начлежка", якая яшчэ хоць кімсьці кіруецца і кантралюецца, -- як бяльмо на воку, якое замінае і жыць, і міргаць. Зараз утрыманне інтэрната каштуе велізарных грошай, прычым увесь цяжар цалкам кладзецца на прадпрыемства. А ў той жа час камунальнае жыллё прыблізна на 40 працэнтаў датуецца дзяржавай. Зразумела, у такіх умовах адміністрацыя прадпрыемства прапануе насельнікам інтэрнатаў самім сто-працэнтна аплачваць сваё пражыванне і карыстанне камунальнымі паслугамі. А ў выніку адзін пакой з агульнымі кухняй, "выгодамі" на ўвесь паверх (а то і некалькі паверхаў) каштуе прыблізна 120 тысяч рублёў у месяц, два пакоі, так званы "блок" для сям'і з некалькімі дзецьмі, --250 тысяч рублёў і болей. Уладальнікі асобных добраўпарадкаваных кватэр плацяць за сваё жыллё дзяржаве менш, чым трэба аддаць за інтэрнацкія "куты" і "ложкі"...

Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што ніхто з сённяшніх інтэрнатаўскіх пакутнікаў не мае шансу атрымаць уласную кватэру: дзяржава бясплатнага жылля практычна не размяркоўвае. Каб жа купіць жыллё, у жыхароў інтэрнатаў звычайна няма грошай. Як мне расказалі на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній, там у трох заводскіх інтэрнатах пражывае каля тысячы чалавек, з якіх прыкладна палова -- дзеці. І не толькі маленькія. Многія з іх ужо выраслі ў тых агульных інтэрнацкіх калідорах, бо на заводзе зараз людзі стаяць у "кватэрнай" чарзе з 1976 года. А былі часы -- гадоў 7--8 назад, калі ў год па 60 чалавек спраўлялі наваселлі. Тады нават павысілі мінімальную норму залічэння на чаргу. Калі ў большасці месцаў прызнавалі, што на паляпшэнне жыллёвых умоў мае права той, у каго ў кватэры прыходзілася меней 6 квадратных метраў жылой плошчы на адну душу, то тут зрабілі -- 8. У выніку чарга вырасла да 800 чалавек. Сёлета з-за бесперспектыўнасці яна значна скарацілася, але тым не менш налічвае 400 тых, хто яшчэ на нешта спадзяецца.

Летась прадпрыемства адужала аплаціць 1 (адну!) кватэру, якая каштавала яму 131 мільён "зайцоў". Сёння прапануецца жыллё з разліку 340--370 долараў за адзін квадратны метр агульнай плошчы. Што завадчанам гэта не "пацягнуць", зразумела нават дзіцяці.

Валянціна Угольнік, старшыня прафсаюзнага камітэта прадпрыемства, расказала, як гады два назад горад выдзеліў ім 6 кватэр у дамах жыллёва-будаўнічых кааператываў. У такім выпадку кошт аплачвае будучы ўладальнік, але не адразу, а з растэрміноўкай на значны перыяд. Знайшліся жадаючыя будавацца -- на той час гэта яшчэ было магчымым, калі "паднатужыцца", прадаць ці не ўвесь сямейны скарб. Людзі зрабілі першы, другі ўзнос. А потым цэны так скокнулі ўгару, што чацвёра вымушаны былі адмовіцца ад далейшага ўдзелу. Ужо заплачаныя сродкі "навасёлам" вярнулі, але без уліку інфляцыйных працэсаў, без індэксацыі. У выніку людзі згубілі на гэтым і значную частку ўласных грошай.

Па словах Валянціны Угольнік, інтэрнаты сёння -- гэта сталае месца жыхарства іх насельнікаў, сярод якіх нямала людзей, што ўжо даўно не працуюць на прадпрыемстве і, здавалася б, згубілі права на заводскі ложак. "Але не выкінеш жа чалавека на вуліцу, -- кажа яна. -- Дзецям патрэбны хоць які дах над галавой".

**Галіна УЛІЦЁНАК.**




**(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).**

**Інтэрнат Мінск[illegible]адщыпнікавага завода падобны да мно[illegible]ншых сваіх "сабратаў" у вялікіх і малых гарадах Беларусі: усё тая ж недагледжанасць, цесната, адсутнасць нармальных бытавых умоў -- плён цяперашняга эканамічнага і сацыяльнага заняпаду. Людзі марнуюцца тут гадамі, а калісьці спадзяваліся, што [illegible]этае прыстанішча -- на невялікі тэрмін, [illegible]ль не атрымаюць уласную кватэру. Але [illegible]ось ужо і дзеці ў школу пайшлі, а інтэрнат зрабілі так званым малосямейным: дазволілі прапісацца да жонак і мужам. Зараз тут на 4-х паверхах у 80 пакоях жыве 185 чалавек. Як жывуць? Гэта добра бачна на здымках нашага фотакарэспандэнта: душ -- у падвале, у бамбасховішчы, адна кухня з дзвюма газавымі плітамі -- на цэлы паверх. Некаторым жанчынам даводзіцца насіць гарачыя каструлі і патэльні праз увесь калідор, дзе бегаюць, ездзяць на веласіпедах, кідаюцца пад ногі дзеці -- крый Божа, выльеш кіпень на іх ці на сябе. Туалет, калі можна так сказаць, двухмесны, агульны для мужчын і жанчын. І за ўсе гэтыя "выгоды" трэба плаціць значныя грошы: за пакой 15 квадратных метраў -- 310 тысяч рублёў у месяц -- трэцюю частку сярэднестатыстычнай заработнай платы. Людзі пішуць скаргі, але ўсё дарэмна.**

**На першым паверсе, ля ўваходу, як прынята ў інтэрнатах, дзяжурыць вахцёрка. Яна часта паўтарае насельнікам інтэрната: глядзіце, беражыце яго, вам тут усё жыццё жыць.**












Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

## 14

Наша мяліна вельмі небясьпечная. З усіх бакоў мы акружаны ворагамі. Навокал па дарогах, па сьцежках, па лясах, па палях, па лугах лазяць зялёнкі, падпольнікі, мытнікі, сексоты, чэкісты. А мы сядзім, нібы ў гнязьдзе, у дасканала замаскіраванай мяліне ў нетрах Краснасельскага лесу і чакаем пачатку зьмярканьня. Любая неасьцярожнасьць можа нас выдаць, а сутычка ўдзень з шматлікім непрыяцелем ўвогуле не ўсьміхаецца нам, таму паводзім сябе вельмі ціха і нават не раскладваем вогнішча.

Трымаемся гэтага небясьпечнага месца, паколькі мяркуем тут накрыць некалькі паўстанцкіх груп. Пункт гэты выдатны і добра намі вывучаны.

Днём пачаў ісьці дробны надакучлівы дождж. Хмары засьцілі неба. Была другая гадзіна. Мы ўжо ня спалі. Шчур расклаў невялікі агеньчык у глыбокай яме, зь якой агульнымі намаганьнямі выкацілі аграмадны, асеўшы ў зямлю валун. Для вогнішча карыстаемся толькі сухім дрэвам.

Наша мяліна была акружана з трох бакоў балотам, але знаходзілася на сухім пагорку. Навокал стаялі задумлівыя, змрочныя, сівыя ад старасьці яліны. Чорнымі калонамі яны пнуліся высока ўгару. Дарогу да нас, акрамя дрыгвы, загароджвалі вялізныя паваленыя дрэвы, густыя хмызьнякі і завалы гальля.

У нейкі момант Грабар падняўся зь месца і сказаў:

-- Прайдуся крыху... Прынясу вады.

Шчур кіўнуў галавой. Грабар узяў біклажку і зьнік за дрэвамі. З таго часу прайшла гадзіна, а Грабар не вяртаўся. Нечакана мы пачулі на поўдні, у дастаткова блізкай ад нас адлегласьці, два рэвальверныя стрэлы. Шчур ускочыў на ногі:

-- Наган, -- вымавіў ён коратка.

Тут жа прагучала яшчэ некалькі стрэлаў.

-- Парабел! -- кінуў мне Шчур. -- Гэта Грабар!

Мы пабеглі нацянькі лесам у напрамку стрэлаў. Праз пятнаццаць хвілін апынуліся на ўскрайку лесу. Удалечыні была відаць страха хутара. Зьлева, у некалькіх сотнях метраў ад нас, я заўважыў у траве нешта чорнае. З рэвальверам у руцэ пабег туды. Убачыў мужчыну ў сялянскай вопратцы, які ляжаў на лузе. Наблізіўся да яго. Убачыў рыжую бараду, якая тырчала ўгару, шрам на левай шчацэ і скрыўленую злосную ўсьмешку, што назаўсёды застыла на мёртвых, зьбялелых вуснах.

-- Гэта... Макараў! -- крыкнуў я.

Шчур нахіліўся над целам падпольніка.

-- Мудрэц!.. Апрануўся як селянін! -- выцiснуў ён сіпата.

-- А дзе ж Грабар? -- запытаўся ў яго.

Мы агледзеліся навокал. Край лесу і луг былі пустымі. Шчур паклікаў:

-- Грабар! Грабар!

Ніхто не адгукнуўся. Шчур, падышоўшы да трупа, падняў зь зямлі наган, які ляжаў непадалёку. Агледзеў рэвальвер і вымавіў:

-- Грабар павінен быць недзе непадалёку. Можа, паранены, бо забраў бы ў яго машыну.

Мы пачалі абшукваць ускраіну лесу. У адным месцы я заўважыў боты, якія тырчалі з-за куста. Гукнуў Шчура:

-- Хадзі сюды!.. Ёсьць!..

Сябра прыбег да мяне. Выцягнулі з-пад куста цела, якое астывала. Шчур перавярнуў яго на сьпіну. Грабар быў мёртвы. Шчур доўга глядзеў на труп сябра, потым сказаў:

-- Поўз да нас і сканаў.

На грудзях Грабара былі дзьве кулявыя раны. Няцяжка было зразумець, што тут адбылося. Грабар выйшаў на ўскрай лесу, і, заўважыўшы селяніна, які крочыў па лузе, і не падазраючы, што гэта падпольнік, наблізіўся да яго. Калі спаткаліся, Макараў, напэўна, выхапіў з кішэні рэвальвер і загадаў Грабару, у якім адразу пазнаў перамытніка, падняць угору рукі. Тады Грабар хватануўся за зброю. Макараў выстраліў яму два разы ў грудзі і пачаў уцякаць. А Грабар рэшткамі сіл выстраліў у яго некалькі разоў з парабела, трапляючы ў бядро, плячо і галаву. Апошняя куля была сьмяротная. Пасьля гэтага Грабар пачаў паўзьці ў напрамку нашай мяліны. Дабраўся да купы кустоў і тут памёр ад страты крыві.

-- Ну, так, так, так! Клёва! -- казаў Шчур, гледзячы на труп сябра.

Я зірнуў на яго са зьдзіўленьнем і сказаў:

-- Занясём яго на мяліну.

Узяў цела пад пахі, а Шчур ухапіўся за ногі. Павольна панесьлі яго ў напрамку нашай мяліны. Нарэшце дабраліся да схованкі. Паклалі труп на эрэзаныя яловыя лапкі.

Шчур пачаў выграбаць зь ямы, у якой гарэла полымя, галавешкі, вугаль, попел і зямлю. Ён рабіў гэта сьпяшаючыся, нібы ў гарачцы.

-- Што гэта будзе? -- запытаўся ў яго.

Калега падняў заліты потам і пакрыты попелам твар, на якім па-дзікаму блішчэлі вочы.

-- Магіла для яго... Як жа інакш?.. Пакінь жа -- ... ць цягаць, рэзаць. Досыць ... а меў за жыцьцё. Няхай хоць зараз атрымае супакой! Труна будзе як халера!

Мне падалося, што Шчур засьмяяўся, але гэтага не магло быць. Хіба заенчыў... Ён капаў далей. Выкідваў наве... груды зямлі. Хутка працава... камі і калом, завостраным ...днаго боку на полымі. Нарэшце выкапаў глыбокую, на 1,5 метра, яму. Тады вылез адтуль, абцёр рукавом кашулі з твару пот і сказаў:

-- Агледзь яго. Забяры грошы і зброю. Грошы адашлеш яго матцы ў Рубяжэвічы. Дам табе адрас... Я зараз вярнуся.

Шчур пайшоў у лес, а я павымаў з кішэняў Грабара ўсе рэчы. Там былі: два рэвальверы (наган і парабел), дзевяць запасных абоймаў для парабела, шмат набояў, 4 гранаты, ліхтарык, партманет з грашыма і шмат球 рознай дробязі. Паклаў усё гэта на вялікай хустцы.

Неўзабаве вярнуўся Шчур. Ён прынёс стос вялікіх яловых лапак. Пачаў высьцілаць імі дно магілы. Пасьля вылез наверх і сіпатым голасам вымавіў:

-- Ну... трэба скончыць!

Мы апусьцілі ў магілу цела Грабара. Шчур спусьціўся ўніз і паправіў яго там. Паклаў уздоўж цела рукі і сказаў мне:

-- Дай машыну... наган... Няхай мае хлапец!

Ён паклаў зараджаны наган ля далані правай рукі Грабара і пачаў, сьпяшаючыся, закрываць цела яловымі лапкамі. Пасьля вылез наверх і вымавіў, нахіляючыся над магілай:

-- Ну, бывай, Янак!

Ён пачаў хутка сыпаць у яму зямлю. Ссоўваў яе рукамі і нагамі. Неўзабаве яма была засыпана. Шчур утаптаў зямлю нагамі.

-- Можа, пакладзём на магілу камень? -- запытаў я Шчура.

Той хвіліну думаў, пасьля зморшчыўся, махнуў рукой і прагаварыў:

-- Ня трэба... І так яму нялёгка было... у жыцьці... Ты ня ведаеш...

Змоўк.

Я давёў да ладу вогнішча. Зноў пачаў ісьці дождж. Уверсе сьвісьцеў, плакаў, завываў вецер. Зрываў з дрэў жоўтыя лісты і засьцілаў імі магілу Грабара.

Грабар, наш надзейны калега, загінуў у канцы залатога сезона (як і Сашка Вэблін). І ўсё навокал было прыбрана ў золата. Залатыя дываны ляжалі па лясах, золата вісела на галінках дрэў, золата засьцяліла яго магілу.

Набліжаўся вечар. Я разьвёў большае полымя. Шчур страпянуўся. Выняў з сумкі пляшку. Пачаў мыць сьпірытусам рукі і твар, на якіх была кроў сябра. Абцёр іх хусткай. Пасьля закурыў папяросу, сеў ля вогнішча і доўга, задумаўшыся, глядзеў у полымя. Курыў папяросу, сплёўваў на вуглі і пра нешта думаў, думаў, думаў...

Зьмяркалася. Цемра пакрыла лясы. Змрок ахутаў усё жалобным вэлюмам.

Вецер памацнеў. Дождж не спыняўся. А зьверху, з дрэў, усё ляцела на зямлю золата.

Зараз працавалі без усялякай сістэмы. Шчур нічога не абдумваў. Накрывалі сланоў адкрыта. Працавалі са злосьцю і напорам. Амаль ня мелі часу на адпачынак. Паўстанцы хадзілі штораз радзей. Шмат груп пакінула зусім работу, а тыя, якія яшчэ працавалі, хадзілі па далёкіх акружных дарогах. Але і там даставалі. Інтуіцыяй адчувалі іх сьцежкі.

Была толькі адна група, якую ніколі не чапалі, хоць было вельмі лёгка яе ўзяць. Гэта "дзікія". Зараз вадзіў іх Дысек Магель, 12-ты машыніст "дзікіх" і 12-ты вар'ят. Болека Камету бальшавікі забілі з засады. Ён ноччу ўзьлез ім на карабіны, і забілі яго некалькімі кулямі... Зьнік Камета з пагранічча. Загінуў першы мачыморда.

Неяк я заўважыў, што ў галаве Шчура памяшалася. Пачаў уважліва за ім назіраць і пераканаўся ў гэтым. Неўзабаве пасьля сьмерці Грабара мы злавілі пяць сланоў. Забралі тавар, які тыя несьлі ў Саветы.

Шчур распакаваў усе ношкі і паскідаў тавар у адну кучу. Пасьля пачаў разьвешваць на елках яркія шалікі, панчохі, світэры, шаўкі, рукавічкі, лакіраваныя паскі. Такім чынам ён упрыгожыў некалькі елачак. Я прыглядаўся за работай сябра і не перашкаджаў яму. А ён адышоў больш чым на дзесяць крокаў ад дрэў і, нешта напяваючы пад нос, аглядаў сваю працу. Пацёр далоні і сказаў мне:

-- Ну, як... муравана?

-- Так сабе... Пойдзе...

Шчур узяў рэшту тавару і ўкінуў у ручай паблізу ад нас. Калі потым мы былі на мяліне, Шчур вымавіў:

-- Ведаеш, што зрабіў аддзін селянін з-пад Курдуноў?

-- Ну?

-- Быў жміндай. Усё жыцьцё зьбіраў грошы. А калі па старасьці захварэў і лёг воблагам, дык трымаў іх у скураным мяшэчку пад падушкай, бо баяўся, каб хто-небудзь са сваякоў не забраў. А незадоўга перад сьмерцю пачаў глытаць залатыя манеты. Глытаў адну за другой -- нібы цукерачкі. Пасьля пачаў задыхацца ад золата. Прыбеглі сыны, дочкі і жонка. Хацелі яму перашкодзіць. Той пачаў іх дзерці, кусаць і праклінаць. Пры тым і памёр.

Я ня цяміў, навошта і ў сувязі з чым ён мне гэта апавядае. А ён час ад часу, найчасьцей у вельмі неадпаведны момант, казаў мне: "А ведаеш, што адбылося ў Гярвелях, ва Ушы, у Дубровах?", або: "Ведаеш, што зрабіў той альбо той?" І апавядаў мне дзіўныя гісторыі.

Я зразумеў, што ў галаве Шчура перакулілася мэбля. Толькі ня мог здагадацца, на чым трымаецца яго вар'яцтва. Не адыходзіў ад яго ні на крок. Жылі пераважна пад голым небам. Працягвалі далей ганяцца за сланамі, але ня раз мы пакідалі тавар у лясах, дзе ён нішчыўся і марнаваўся. Некалькі разоў вечарамі заходзілі ў мястэчка. Куплялі там правіянт і папяросы. Шчур наведваў сваіх інфарматараў і даведваўся ад іх, хто яшчэ ходзіць за граніцу. Наша работа зьменшылася, бо паўстанцы амаль зусім закінулі перамытніцтва. Некаторыя нават баяліся хадзіць вуліцамі мястэчка па адным. Мы трымалі ўсіх у страху.

Шчур даведаўся ў мястэчку, што пэўная група паўстанцаў ходзіць за граніцу не адразу з мястэчка Ракава, а з Волмы. З гэтага боку нясуць за мяжу вельмі каштоўны тавар, а на нашым адрэзку вяртаюцца без усялякага груза. У той жа час іх праваднік -- Бэрка Станога пасьля перакідкі двух-трох груп вяртаўся з-за граніцы адзін з выплачанымі за тавар грашыма. У залежнасьці ад колькасьці перафарцаванага туды тавару, пераносіў в... я сумы -- ад 5 да 10 тысяч да... у. Прыкладна падказалі адрэз..., якім вяртаўся з Саветаў Бэрка Станога. Знаходзіўся непадалёку ад Тэклі Поля.

Праз нейкі час удакладнілі, што Бэрка Станога пасьля пераходу граніцы ідзе шасьцю дарогамі. Пра...дзіць каля дубовага бору дз... а Навіцкага; логам, зводдаль ...д сьвірна кіраўніка тутэйшага маёнтка Карабіновіча; каля карчмы, што знаходзіцца на дарозе з Волмы ў Ракаў; і, нарэшце, лесам, паблізу ад карчмы. Там жа праходзіў трыма шляхамі: лугам, каля вёскі, па леваму крылу лесу і сьцежкай, якая перасякала лес. Прымаючы пад увагу розныя акалічнасьці, рабілі засады на адной з тых дарог. Аднаго разу, як звычайна, зрабілі засады ў двух месцах: я на сьцежцы, якая вяла ў сярэдзіну лесу, а Шчур на яго левым крыле. Прыкінулі, што Станога мусіць вяртацца па адной з гэтых дарог.

Была другая гадзіна ночы. Месцы нашых засад знаходзіліся ў значнай адлегласьці ад мяжы. Каб не прагледзець жыда, я ўважліва ўзіраўся ў прастору перад сабой. Калі здавалася, што ўхапіў нейкія парушэньні на мясцовасьці, падымаўся і падрабязна азіраў наваколле. Пераканаўшыся ў зрокавым падмане, зноў сядаў на сасновы пень.

У нейкую хвіліну зьлева ад мяне даляцеў лямант. Я пабег ускрай лесу. Наблізіўся да засады Шчура. Убачыў, што той абшуквае селяніна, які прасіўся, каб Шчур яго адпусьціў; за гэта даваў 10 рублёў золатам. Селянін нёс у мяшку больш дзесяці кілаграмаў авечай воўны і казаў, што ідзе да сваякоў, якія жывуць паблізу ад Волмы.

Нечакана мне прыйшла ў галаву адна думка. Калі Шчур адпусьціў селяніна, я сказаў сябру, што, як на мой розум, дык Бэрка Станога ніколі не вяртаецца з Саветаў адзін, а заўсёды ідзе разам з бабай і селянінам, якія крочаць наперадзе на адлегласьці ў некалькі дзесяткаў крокаў, а зводдаль прастуе Бэрка. Я прыгадаў яму бабу, якую затрымалі непадалёку ад сьвірна Карабіновіча. Шчур, нічога не вымавіўшы, кінуўся па пройдзенай селянінам дарозе. Праз квадру гадзін вярнуўся.

-- Маеш рацыю: ззаду ішла баба, а далей нехта ў ботах. Аб'ягорылі нас.

Ён усеўся на камель зваленай ветрам бярозы і доўга сядзеў нерухома. Я закурыў папяросу, падаў яму. Выкурыў усю, ні словам не адгукваючыся да мяне.

-- Можа, пойдзем, -- запытаў яго.

Падняў галаву. Пры сьвятле месяца ўбачыў яго бледны худы твар і бліскучыя, крыху прыплюшчаныя вочы.

-- Кажаш: пойдзем?

-- Так. Няма чаго тут сядзець!

-- Не... Ня пойдзем... Я адзін пайду... Ты ня пойдзеш...

-- Куды? -- запытаўся я зьдзіўлена.

-- На поўдзень пайду. Туды, куды птушкі паляцелі... Там у мяне свае... Ведаю Кіеў, Харкаў, Растоў, Адэсу, Тыфліс... Пайду... Што я тут? Няма нікога... У мяне брат жыве ў Растове... Брат, матка і сястра... Маці старая, брат старэйшы за мяне, а сястры -- чатырнаццаць... Можа, ім блага?.. Пагляджу... Няхай гэта ўсё халера забярэ!..

Падняўся і пакрочыў у напрамку тракту. Рэвальвер трымаў у руцэ. Забыўся яго схаваць. Я ішоў за ім. Ведаў, што трапіла яму ў галаву цяпер нейкая новая думка і я не выб'ю яе зь ягонай галавы.

На наступны вечар мы перайшлі граніцу ў Альшанцы. Засекі калючага дроту я перарэзаў нажніцамі, якія ўвесь час нашу пры сабе. Мы пайшлі лесам да другой паласы. Крочылі па добра вядомых нам дарогах, якімі перанесена з усходу на захад і наадварот міліёны ў таварах і грашах. Мы ведалі тут кожную сьцежку і кожную дарогу, кожную паляну, кожны лог, кожны ручай, амаль ці ня кожнае дрэва і куст. Наведалі шмат памятных для нас мясьцін. Нічога не казалі. Крочылі бяз шолаху пры сьвятле месяцовых промняў і ў змроку, які ляжаў у нетрах лесу. Трымалі ў руках рэвальверы.

Наблізіліся да Старасельскага лесу. Тут ступілі на тракт. Рухаючыся далей адкрыта па дарозе, сталі на скрыжаваньні чатырох шляхоў. Тут выцягнулі рукі ва ўсе бакі сьвету некалькі дарожных паказальнікаў. Тут было на паўдарозе з Ракава да Мінску. Каля тых дарожных знакаў Шчур затрымаўся. Сеў на малым, зарослым травой пагорку, выняў з кішэні вялікую пляшку. Паглядзеў праз яе на месяц і вымавіў:

-- Даўно мы ня пілі лікёру? Што?

-- Даўно.

-- Дык вып'ем... на разьвітаньне... Бо, напэўна, больш ніколі ня ўбачымся.

Ён зьдзёр аб дарожны паказальнік з бутэлькі сургуч і ўдарам далані выбіў з бутэлькі корак. Пасьля сказаў:

-- Ну, будзь здаровы і шчасьлівы і ніколі не паддайся хамам!

Пачаў піць. Адліў палову пляшкі і даў яе мне.

-- За твой пасьпех ва ўсім! -- адказаў я яму.

Выпіў рэшту лікёру, а бутэльку кінуў далёка ў поле.

Мы закурылі папяросы.

-- Ведаешь што? -- вымавіў Шчур.

-- Слухаю.

-- Ты павінен злавіць Бэрку Станогу... Хоць адзін раз... Я не магу застацца... павінен ісьці туды... Але ты гэта зрабі!.. Зробіш?..

-- Добра.

-- Дакладна? Слова?

-- Калі не перастане хадзіць, дык напэўна!

-- Гэта клёва!

Зноў закурылі... Пасьля Шчур падняўся. Агледзеўся навокал, па палях, і потым сказаў мне:

-- Ведаеш што? Жыў недалёка ад Каменя адзін селянін. У яго былі справы зь дзедзічам. Аднаго разу дзедзіч пакрыўдзіў яго. Селянін вырашыў абавязкова адпомсьціць яму. Неяк на яго падворак забег сабака дзедзіча. Селянін трымаў у руках касу. Замахнуўся і адсек сабаку нагу. Так было. Разумееш?

Ня ведаю, што ён гэтым хацеў сказаць і да чаго гэта павінна адносіцца, але я сказаў:

-- Разумею.

-- Ну дык бывай!.. Мне ўжо пара!...

Моцна пацiснуў мне даланю і, сьпяшаючыся, пакрочыў дарогай у напрамку Старога Сяла. Я глядзеў ему ўсьлед: ці азірнецца?.. Не азірнуўся... ён хутка зьнік у сяйве зь месячных промняў на ўскраіне Старого Сяла. Я падумаў, што зь ім можа нешта здарыцца: у Старым Сяле звычайна жылі і спыняліся падпольнікі, сексоты і чэкісты. Мы заўсёды абыходзілі яго зводдаль... Я доўга чакаў: а можа, прагучаць стрэлы?.. Можа трэба будзе бегчы на дапамогу?.. Але ўсё было ціха...

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 29—10.**

# ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАНДРАТА КРАПІВЫ

## САМАНАДЗЕЙНЫ КОНЬ

БАЙКА

*Вялікаму каню -- вялікі хамут.*

Народная прыказка.

Меў нейкі Селянін мізэрнага Каня --
З сабаку, можа, так, мо, з добрае шчаня.
Малому веліччу быць хочацца заўсёды, --
У мацеры-прыроды
Такі спрадвеку ўжо закон.
Так вось і гэты Конь...
Яно не ганьба хоць -- сабе дабра жадаць,
Але ў Каня ўжо, як відаць,
Жаданне ў манію вялічча перайшло.
І стаў ён скардзіцца на ўсё сяло:
І "і-га-га!" і "і-го-го!" --
Хамут нібы не да яго.
-- Я сам, -- іржэ, -- такі каніска,
А вось хамут дык жарабячы блізка --
Не засупоніўшы і то ён нават цесны:
Ні ўлезці мне ў яго, ні вылезці -- хоць трэсні!
У горад Селянін прыехаў на кірмаш.
І вось убачыў тут асілак наш,
Што грузныя ламавікі
Пудоў па сто вязуць мукі.
-- Ну вось цяпер ці бачыш ты, --
Пытае ён Гаспадара, --
Якія ў коней хамуты!
Табе б купіць даўно пара
Хоць трошкі большы для мяне,
І я б за іх цягнуў тады ўдвайне:
Не сто пудоў, а цэлых дзвесце.
Тут, каб Каню свайму давесці,
Што гэта глупства і мана,
Каб выгнаць, зноў жа, наравы
З дурной канёвай галавы,
Той гаспадар і просіць фурмана,
Каб ён у воз вялікі свой запрог яго каняку.
Фурман гатоў за пэўную падзяку, --
Асілак наш ужо ў вялікім хамуце.
Ахвоты той хамут хоць шмат яму паддаў,
Але тут здарыўся скандал:
Пралезлі праз хамут канёвы персі й ногі,
І затрымаўся ён аж ледзь на жываце.
А тут яшчэ пракляты воз
І з месца не скрануць -- як да зямлі прырос.
І просіць у бядзе наш дурань дапамогі.
З тае пары другога хамута
Не патрабуе Конь ніколі:
Свайго яму якраз даволі.
Хамут стаў -- проста любата.

Мне часта крыкуны мільгаюць у вачах --
Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах.

*1927 г.*

## БАЛАДА ПРА ЯЎТУХА

Быў хлопчык
як хлопчык --
Гуляў сабе, рос,
Не думаў да часу
Пра будучы лёс,
Меў шмат закадычных
Адданых сяброў,
Гусей з імі пасвіў
І нават кароў,
І розум ён чэрпаў
З адных з імі кніг,
Але Яўтушок быў
Спрытнейшы за іх:
Умеў нацянькі ён
Да мэты ісці --
Пачаў вызначацца,
Пачаў ён расці.
Начальнікам хутка
Зрабіўся Яўтух,
І дружбы хлапечай
Агеньчык патух.
Сябры працавалі,
А ён усё рос,
І стаў задзірацца
Ўгару яго нос:
Ад веліччы ўласнай
Праз год ці праз два
Аж стала кружыцца
Ў яго галава.
Не бачыў зямлі ён,
Не бачыў людзей,
Як быццам сурочыў
Яго ліхадзей.
І помы, і намы
Яму па чарзе
Дакладвалі, што там
Такое ўнізе.
На падпірках так ён
Хадзіў па зямлі,
На ёй жа ухабы
І ямы былі.
Аднойчы няўдалы
Някемлівы нам
Не ўспеў папярэдзіць
Ад здрадніцкіх ям,
І плюхнуўся ў яму
Знянацку Яўтух...
І гэта вялікі,
Вялікі быў плюх.

*1963 г.*









Беларусь шырока адзначыла стогадовы юбілей свайго выдатнага сына, патрыярха і класіка нацыянальнай літаратуры Кандрата Крапівы. Яго талент, творчасць, н... ковая дзейнасць склалі гонар беларускай культуры. Векавы юбілей пісьменніка шырока адзначаны ў нашай краіне. У тэатры імя Янкі Купалы, дзе ішлі з велізарным поспехам п"есы Кандрата Крапівы, адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная знамянальнай даце. З дакладам выступіў Віктар Каваленка, прысутнічалі госці з Польшчы і Украіны.

У музеі Вялікай Айчыннай вайны прайшла вечарына, дзе згадваўся Кандрат Крапіва як ваенны журналіст.

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры працуе выстава "Кандрат Крапіва -- вядомы і невядомы". Гэтыя здымкі зроблены менавіта ў час адкрыцця выставы, калі на вечарыну, прысвечаную выдатнай падзеі, прыйшлі паплечнікі Кандрата Крапівы, блізкія яму людзі, шматлікія чытачы і прыхільнікі яго таленту. Пра Кандрата Крапіву -- рэдактара пасляваеннага "Вожыка" -- цікава распавядаў тагачасны супрацоўнік часопіса народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, а пра Кандрата Кандратавіча-дзядулю гаварыла ўнучка, кандыдат мастацтвазнаўства Алена Атраховіч.

На вечарыне гучалі таксама байкі і вершы Кандрата Крапівы, артысты нацыянальнага тэатра паказвалі ўрыўкі з п"ес драматурга Крапівы, а мовазнаўцы выказваліся пра літаратурна-крытычныя і лінгвістычныя працы акадэміка Крапівы. Выстава, на якой сабраны рэчы, творы і іншыя экспанаты славутага чалавека, дапоўнілі ўяўленні пра яго жыццё і творчасць.

**НА ЗДЫМКАХ:** выступае ўнучка Алена АТРАХОВІЧ, а выставу адкрывае нявестка Зоя АТРАХОВІЧ; экспанаты выставы.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## МУРАШКА І ЖУК

БАЙКА

Раз летнім днём цераз дарогу
Мурашка пруцік валакла
Ды прыпынілася была,
Чакаючы сяброўку на падмогу.
І гэтым часам
Пачуўся нейкі гук,
Як бы спяваў хто басам,
А з гукам сеў паблізу Жук.
Глядзіць Мурашка палахліва:
Што за дзіва!
Такі блiскучы ягамосць --
Наставіў вусы ці то рогі,
Ідзе паважна ўздоўж дарогі,
Пагардліва наўкола пазірае,
Адзенне тое лакам ззяе --
Ці не замежны госць!
-- Ну што, малеча, цяжка
Цягнуць такое на гарбе! --
Прамовіў Жук,
заўважыўшы Мурашку.
-- А мы працуем на сябе.
-- Ды чуў... Пра гэта ўсюды трубяць.
Павага, слава, чэсць!
-- Хто не працуе, той не есць.
-- Давай, давай! Работа дурняў любіць.
-- Без працы хіба можна жыць!
-- Працуй. А мне на ліха праца!
І без яе як мае быць
Магу я смачна есці, піць,
Па модзе апранацца.
А слава... Што мне слава!
-- Ці-ка-ва.
-- Калі цікава, дык хадзем,
Я пакажу ахвотна,
Дзе я жыву і што я ем,
Якім я водарам дышу,
Як час праводжу бесклапотна
І на гарбе цяжару не нашу.
І ты жыццё мо перайначыш,
Як гэта ўсё пабачыш.
Да мэты прасцяком
Паўзе Мурашка за Жуком:
Хоць вокам глянуць на той рай --
На Жукавы палацы.
Мо праўда ёсць на свеце край,
Дзе можна жыць без працы.
Жук важна крочыць перадом,
За ім Мурашка сціпла.
Жук ганарліва: -- Вось мой дом!
І тут... Мурашка ўліпла.

Такі ж не мелюць языком,
А праўду кажуць людзі:
Як папаўзеш ты за Жуком,
Дык апынешся ў брудзе.

*1964 г.*

## ШЛЯХІ ДА ІСЦІНЫ

БАЙКА

Жылі ў суседстве два Іваны.
Адзін -- мудрэц --
Шукаў ва ўсім пачатак і канец,
Другі -- прастак --
Жыў проста так.
Вось раз ідзе прастак з двара --
Касцюмчык, гальштук, папяроска.
-- Куды! -- пытае цёзка.
-- Ды мне пара...
Вунь там у скверыку чакае
Чарнявая такая.
-- Я бо гляджу -- надраіў чуб.
Жаніцца думаеш!
-- А хоць бы й так!
-- Дык ты ж не знаеш,
што такое шлюб.
-- Я па-вучонаму адказваць не бяруся.
Як ажанюся -- разбяруся.
-- Прастак дык ён і ёсць прастак.
А я хачу спачатку разабрацца.
Цяжкая, праўда, праца,
Вунь, бачыш, колькі кніг!
Усё пра шлюб сабрана ў іх
Ад самага Адама.
Дык вось мая праграма:
Пакуль да сутнасці не дабяруся --
Не ажанюся.
Ад першабытнае сям'і пачну.
-- Ну-ну!
Жадаю поспеху.
-- Табе таксама.
Пакуль мудрэц, сабраўшы
кніжак стог,
І дзень і ноч над імі сох,
Пакуль дабраўся да матрыярхату,
Прастак прывёў чарняўку ў хату.
Яшчэ прайшло мо год ці два,
Штудзіруе разумнік том за томам,
Трашчыць аж галава,
А ўсё канца няма
крыніцам невядомым.
Раз, глянуўшы на свет, разумны
аж здзівіўся:
Сынок у "дурня" нарадзіўся.

Ішлі гады сваёй хадою...
Пад старасць наш мудрэц,
Аброслы сівай барадою,
Знайшоў-такі пачатак і канец,
Але на сівізну кудзелі
Нявесты не глядзелі.

*1965 г.*

